# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 47 (2241) 21 лістапада 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.



**Упершыню за гады Савецкай улады ўсім шасці епархіям Рэспублікі Беларусь — Мінскай, Брэсцкай, Пінскай, Гомельскай, Магілёўскай і Полацкай—нароўні з іншымі грамадскімі арганізацыямі прадастаўлена права юрыдычнай асобы. Пасведчанні аб рэгістрацыі Статутаў уручаны ў Доме ўрада кіраўнікам беларускіх рэлігійных арганізацый.**

**НА ЗД... У: старшыня рэспубліканскага Савета па справах рэлігіі А. ЖЫЛЬСКІ ўручае пасведчанне аб рэгістрацыі Статута Мінскай епархіі Беларускага Экзархата Маскоўскага Патрыярхата мітрапаліту Мінскаму і Гродзенскаму патрыяршаму экзарху ўсяе Беларусі ФІЛАРЭТУ.**

**Фота І. ЮДАША.**

*БЕЛАРУСАМ ВАРТА ІСЦІ*

*НА ПОЎНУЮ САМАСТОЙНАСЦЬ?*

## ПЕРАД ВЫБАРАМ

Сёння госць «Голасу Радзімы» народны дэпутат СССР Аляксандр ЖУРАЎЛЁЎ. Як і ў многіх сучасных палітычных дзеячаў, у яго свой погляд на прычыны цяжкага эканамічнага становішча ў краіне, уласныя меркаванні наконт таго, як выбрацца з бездані, у якую мы трапілі.

За некалькі дзён да гэтай сустрэчы я апынулася з Аляксандрам Рыгоравічам у адной доўгай чарзе за дзесяткам яек. Не так часта даводзіцца бачыць народных абраннікаў у такіх будзённых варунках. І таму, мус... гутарка ў рэдакцыі пача...я менавіта з гэтага эпізода.

— Няўжо дэпутат не ў стане так арганізаваць сваё жыццё, каб не траціць час у чэргах за прадуктамі? — спытала я.

— У тых ...кіх умовах, у якіх мы ўс... знаходзімся,— адказаў Аляксандр Рыгоравіч,— я лічу, што ні адзін дэпутат проста не мае права ні на якія прывілеі. Хаця ў прынцыпе лічу пажаданым, каб кожны з нас, дэпутатаў, займаўся толькі сваімі непасрэднымі справамі, і калі ёсць магчымасць дапамагчы яму ў гэтым, дык нейкі мінімум умоў трэба забяспечыць. Сёння ж мы павінны жыць жыццём нашых выбаршчыкаў, падзяляючы з імі нягоды. Так будзе па-людску.

— А ці наогул гэта можна назваць «па-людску», калі сёння мы выстойваем чэргі літаральна за ўсім і ўсяго не хапае? Да чаго мы прыйдзем і што з намі ў рэшце рэшт будзе?

— У рэшце рэшт, я думаю, мы прыйдзем да нармальнага жыцця. Справа толькі ў тым, якім шляхам дойдзем да вартага чалавека жыцця.

— І калі?

— Так, і колькі часу нам спатрэбіцца, каб прыйсці да таго, да чаго даўно прыйшоў увесь цывілізаваны свет. Усё залежыць ад нас. Аднак жыццё пераконвае, што, на жаль, ісці будзем доўга і цана можа аказацца занадта высокай. Мы не хочам ісці разам, штурхаем і адпіхваем адзін аднаго, як у чарзе.

— А калі больш канкрэтна, што, на ваш погляд, трэба зрабіць, каб увайсці ў цывілізаваны свет?

— Перш за ўсё нам патрэбны грошы, я гавару як эканаміст. Тое, чым мы ка-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

## РАНЧА «МОЙ РОДНЫ КУТ»

Нават у нясцерпна гарачае лета тут, у гарах штата Нью-Йорк, пануе прахалода. Клімат прыблізна такі самы, як дзе-небудзь на Брэстчыне або Гомельшчыне. Кавалак зямлі на гары плошчай 10 акраў—гэта прыблізна чатыры гектары — бацькі Данчыка набылі напалам з адной украінскай сям'ёй яшчэ ў 1969 годзе. Дакладней, кавалак зямлі і невялічкі загарадны дом. Андрусышыным дасталася па жэрабю частка без дома, суседзям — з домам. Праблему вырашылі да ўзаемнай згоды: дзве сям'і пасяліліся ў адным дамку, а праз пяць гадоў Андрусышыны пачалі будаўніцтва сваёй дачы. Унутры будынка ўсё рабілі ўласнымі рукамі. Спадарыня Юля, маці Данчыка, з усяго наваколля нацягала невялікіх камянёў, зрабіла з іх арыгінальную дэкаратыўную агароджу, якая падкрэслівае рэльеф мясцовасці. Сёння дача, ці, як тут завецца аднапавярховы дом, ранча Андрусышыных даведзена да ладу. (Прынамсі, жыць тут можна і зімой). Дача здаля нечым нагадвае белы карабель, які доўга вандраваў па морах і акіянах і нарэшце аддаў швартовы сярод лесу. Як па нашых мерках, то гэта дача знаходзіцца страшэнна далёка ад Манхтэна, раёна Нью-Йорка, дзе яны жывуць. Але для Амерыкі тое лічыцца нармальным, ва ўсякім разе прымальным.

Дача, па словах спадарыні Юлі, каштавала ім не так ужо і дорага. Значна даражэй, аказваецца, утрымліваць яе: падаткі, страхоўкі. Тым больш, што працуе адзін муж. Аднак жа яны не шкадуюць, што нечым даводзілася ахвяраваць, каб мець вось такое мілае месца на ўлонні прыроды, удалечыні ад буйных прамысловых гарадоў, дзе можна з прыемнасцю сабрацца ўсім разам, адпачыць. Уласна кажучы, гэта дача трымала і трымае ўсю іх сям'ю.

У выхадныя дні на ранча пад назвай «Мой родны кут» любяць збірацца сябры і знаёмыя Андрусышыных. У адзін з такіх выхадных пабывалі там і мы з Алай Орса-Рамана.

...Пакуль не зайшло сонца, вырашылі зрабіць невялічкую прагулку па лесе. Малодшы Андрусышын, які ў свой прыезд у Мінск пару гадоў назад пакарыў песнямі беларускую публіку, заваяваў яе сэрца і стаў немалой славутасцю, добраахвотна ўзяў на сябе абавязкі гіда. Наша знаёмства з ім у Мінску было кароткім, сустрэча — у прамежках паміж канцэртамі і паездкамі па Беларусі. Наколькі памятаю, быў ён да знямогі стомлены, затузаны журналістамі. А тут—зусім іншая справа. Гавары на здароўе, колькі хочаш і пра што хочаш, пытайся—вось ён, Данчык, абаяльны, як заўсёды, трохі іранічны. Напэўна, усіх у Беларусі, хто пабываў на канцэртах Данчыка, уразіў гэты малады чалавек. Не толькі сваёй прывабнай знешнасцю і прыемным голасам, а і манерай паводзін, унутранай культурай і далікатнасцю, разняволенасцю свядомасці і натуральнасцю пачуццяў. У ім было нешта такое, чаго не хапала многім з нас: пачуцця годнасці, вольнасці і незалежнасці духу.

Пасля Нью-Йорка і доўгай дарогі наша прагулка, ды яшчэ з такім гідам, як Данчык,—проста падарунак. ...Ціха. Аж дурманіць смалісты лясны водар і пах грыбніцы пад коўдрай старога лісця, з-пад якога то там, то тут вытыркаюцца сыраежкі і мухаморы, іншая грыбная драбяза. Залацісты рэтрывер па мянушцы Ржавы ўпэўнена вядзе нас знаёмымі сцежкамі...

Усе размовы ў славян, як заўсёды, за сталом. Ледзь пад'ехалі, як адразу загаманілі. Ну зусім так, як робіцца гэта ў нас, калі збіраецца прыстойная кампанія. Старэйшая сярод нас спадарыня Яніна Каханоўская — бабуля Данчыка. Яна дачка Эміліі Шабуні, сястры Івана і Антона Луцкевічаў.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**



**Астанкі 523 воінаў, расстраляных фашыстамі ў час Вялікай Айчыннай вайны ў канцлагеры для ваеннапалонных на Лагойскім тракце, з ушанаваннямі былі перазахаваны на тэрыторыі воінскай часці, якая базіруецца непадалёку ад беларускай сталіцы.**
**На працягу года члены пошукавага клуба «Альфа» вялі раскопкі на тэрыторыі Мінскага гадзіннікавага завода, спрабуючы ўстанавіць прозвішчы загінуўшых.**
**На жаль, толькі адно прозвішча было названа. Астанкі радавога Андрэя Петруханава перададзены яго дачцэ Т. Болдзінавай. Удзел у гэтай акцыі прынялі таксама і відавочцы тых трагічных падзей.**

**НА ЗДЫМКУ: у час перазахавання астанкаў 523 воінаў, расстраляных у канцлагеры.**

**Фота У. ШУБЫ.**

БЕЛАРУСЬ І ЕЭС

## ПРАДСТАЎЛЕНА ПЯЦЬ ПРАЕКТАЎ

Беларускі рэспубліканскі цэнтр «Спажывецкі рынак» прадставіў у Савет Еўрапейскага Эканамічнага Супольніцтва пяць праектаў. Яны прадугледжваюць стварэнне на тэрыторыі Беларусі двух перапрацоўчых мясных заводаў, аднаго малочнага і цэха па вытворчасці дзіцячага харчавання, а таксама агульнай інфармацыйнай сістэмы па пастаўках і рэалізацыі прадуктаў.

Праекты адобраны ў Бруселі, а ў Мінску пабывалі прадстаўнікі ЕЭС. Вывучэнне становішча і аказанне садзейнічання ў будаўніцтве прадпрыемстваў па выпуску прадуктаў харчавання — такой была мэта візіту. Мяркуецца, што цэх па вытворчасці дзіцячага харчавання будзе размешчаны пад Мінскам, у не забруджанай радыенуклідамі зоне. Прадпрыемствы па перапрацоўцы мяса і малака, аб'яднаўшыся з дзевяццю калгасамі і саўгасамі рэспублікі, якія будуць пастаўляць сюды сваю прадукцыю, ператворацца ў буйную фірму.

ДАРАЖАЦЬ МАРКАИ



Брэсцкі завод «Цветатрон»—шматгаліновае прадпрыемства. Яно пастаўляе электронную начынку і для магутных камбайнаў «Дон», зернеўборачных, якія выпускаюцца ў Растове-на-Доне. Штом[illegible]ц брэстаўчане адпраўляюць сумежнікам дзве ты[illegible] камплектаў электронікі. Заказы выконваюцца з высокай якасцю і своечасова.

НА ЗДЫМКУ: пячатныя платы да камплектаў камбайна «Дон» вырабляе А. МАЛЕЦКІ.

РЫНАК І ЦЭНЫ

## ШТО НАС ЧАКАЕ ЗАЎТРА

Чарговае павышэнне цэн — найгалоўнейшая тэма, што хвалюе нас сёння. З дня на дзень, мусіць, павысяцца цэны на мяса, малако, хлеб, гарэлку, цыгарэты. Што робіцца ўрадам, каб абараніць чалавека ад гэтай бяды?

Апублікавана пастанова аб мерах па абароне спажывецкага рынку, якая прадугледжвае ўвядзенне ў абарачэнне з 1 студзеня 1992 года купонаў з карткай спажыўца. Яны будуць выкарыстоўвацца пры продажы насельніцтву харчовых і нехарчовых тавараў.

З 1 лістапада гэтага года ўведзены новыя закупачныя цэны на буйную рагатую жывёлу, свіней і авечак. У сярэднім цэны павялічыліся: за буйную рагатую жывёлу—на 25,8 працэнта, свіней—на 27,5, авечак—на 35,3 працэнта.

Па дагаворных розьнічных цэнах будуць рэалізоўвацца насельніцтву цыгарэты з фільтрам 1 і 2 класаў. А для атрымання дадатковых сродкаў на пакрыццё розніцы паміж аптовымі і рознічнымі цэнамі на мяса і мясапрадукты будзе расшыраны асартымент віна-гарэлачных вырабаў для продажу ў камерцыйных магазінах.

Пастанова прадугледжвае таксама ўвядзенне талоннай сістэмы на мяса-малочную прадукцыю і іншыя дэфіцытныя віды прадуктаў харчавання. Гэтай мерай прадугледжваецца спыніць вываз пералічаных тавараў за межы рэспублікі.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

## СПАДАБАЛІСЯ БЕЛАРУСКІЯ ТРАКТАРЫ

У Мінску была дэлегацыя фірмы «Кукчэ Машынеры» на чале з яе прэзідэнтам Куі Ван Лі з Паўднёвай Карэі. Госці наведалі Мінскі трактарны завод, дзе ішла размова аб стварэнні сумеснага камерцыйнага прадпрыемства.

Фірма «Кукчэ Машынеры» больш спецыялізуецца на выпуску малагабарытнай сельскагаспадарчай тэхнікі, якая нам у сувязі з развіццём фермерскіх гаспадарак патрэбна як паветра. Паўднёвакарэйцы таксама маглі б рэалізоўваць на сваім рынку і рынках іншых краін трактары мінскага завода (яны, дарэчы, цяпер праходзяць у Карэі ўсебаковыя выпрабаванні).

РЭАЛІІ СЁННЯШНЯГА ДНЯ

## ЗАБАСТОЎКА АДВАКАТАЎ

Пайшоў другі тыдзень забастоўкі адвакатаў рэспублікі. Пакет сацыяльна-эканамічных патрабаванняў, выстаўленых адвакатамі, цяпер знаходзіцца ў камісіях і ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Адвакаты не раз звярталіся ў Саўмін з просьбай адмяніць частку падаткаў і знізіць працэнты з астатніх. Здавалася, урад усё ж зрабіў першы крок насустрач, вырашыўшы адмяніць 11-працэнтны падатак у бюджэт рэспублікі. На жаль, і гэты праект застаўся без руху ў Вярхоўным Савеце рэспублікі, хаця з'явілася надзея: у Міністэрстве фінансаў падпісаны дакумент вызваленні ад выплаты 11 працэнтаў на ча[illegible]ты квартал гэтага года. Аднак далей справа не рухаецца. Пасля тыдня забастоўкі ні з боку Саўміна, ні з боку Прэзідыума Вярхоўнага Савета няма ніякіх рашэнняў. Няхай спыняецца следства, правасуддзе, зачыняюцца следчыя ізалятары — нікому няма справы.

НА ГРАНІЦЫ

## ВЫЕЗД ПРЫПЫНЕНЫ

Распараджэннем Гродзенскага аблвыканкома часова, з 10 лістапада, прыпынены пропуск савецкіх грамадзян, якія выязджаюць за граніцу па турысцкіх і прыватных справах цераз таможаны кантрольна-прапускны пункт «Брузгі» і чыгуначны вакзал станцыі Гродна.

Матывы — незавершанасць будаўніцтва кантрольна-прапускнога пункта, нізкая прапускная здольнасць вакзала, немагчымасць забяспечыць у такіх умовах належны санітарны стан. Раней па гэтых жа прычынах была зачынена граніца ў Брэсце.

Дазваляецца выезд за мяжу па службовых справах і прыгранічных сувязях, а таксама сваякам у экстранных выпадках.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ Беларусь выбрана на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі членам эканамічнага і сацыяльнага савета тэрмінам на тры гады ў першым туры галасавання. Усяго ў складзе ЭКАСАС, адным з шасці галоўных органаў ААН, 18 членаў. Цяперашнія выбары набылі вострыі многаэтапны характар у выніку таго, што колькасць дзяржаў, якія вылучылі свае кандыдатуры для выбрання, значна перавысіла колькасць вакансій.

◆ У вялікае свята дзвюх братніх культур — латвійскай і беларускай — ператварылася адкрыццё мемарыяльнага знака на Стара-Сямёнаўскіх могілках у Віцебску, дзе ў 1914 годзе была пахавана Дмарта Плікшане — маці вялікага паэта Латвіі Яна Райніса.

◆ У пасёлку Пагранічны Бераставіцкага раёна пачата будаўніцтва незвычайнага для гэтай мясцовасці прадпрыемства — завода па выпуску мінеральнай вады. Яна будзе паступаць з дзвюх свідравін, а па сваіх лячэбных характарыстыках ідэнтычная мінвадзе літоўскага курорта Друскінінкай.

◆ На факультэце педагогікі і методыкі пачатковага навучання Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта адкрыта новая кафедра — выяўленчага мастацтва. Студэнты на лекцыях вывучаюць яго асновы і методыку выкладання.

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ЗАСТАЕЦЦА НА ПАПЕРЫ

## СА ЗВАРОТУ СОЙМА БНФ ДА НАРОДА БЕЛАРУСІ

«Беларусь перажывае цяжкі, трывожны час. Людзі ў разгубленасці ад няяснасьці эканамічных пэрспэктываў. Абвешчаная незалежнасьць застаецца на паперы, Рэспубліка не вядзе ўласнае дзяржаўнае палітыкі: свая валюта—дзейсны сродак абараніцца ад хвалі пустых рублёў з усяго былога СССР—ня ўводзіцца, не абароненыя межы, не ствараюцца ўзброеныя сілы. Колішняя залежнасьць ад савецкай імпэрыі на вачох ператвараецца ў залежнасьць ад Расеі, дзе нарастае палітычная й эканамічная нестабільнасьць.

Жнівеньскія падзеі далі унікальную магчымасьць рэалізаваць дэмакратычны, інтэлектуальны, эканамічны патэнцыял Беларусі ў незалежнай дзяржаве. Стварыліся ўмовы для пераходу да рынку з выкарыстаньнем нашых перавагаў. Аднак рэспубліка не выкарыстоўвае гістарычнага шанцу стаць незалежнай і дэмакратычнай краінай са свабоднай эканомікай. Беларусь ня толькі адстае ў палітычным разьвіцьці ад суседніх рэспублік, але коціцца ў бездань эканамічнага краху й новага каляніяльнага заняволеньня.

Адказнасьць за гэта цалкам ляжыць на Вярхоўным Савеце, яго кіраўніцтве, на Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусі.

Спадзяваньні на тое, што Вярхоўны Савет возьме на сябе адказнасьць за лёс Рэспублікі ды яе народу, ня спраўдзіліся. Непрафэсійная, не падрыхтаваная да самастойнай дзяржаўнай дзейнасьці намэнклятурная большасьць так і не зразумела, што вяртаньня назад не будзе. Апазіцыя БНФ мае дакладную канцэпцыю вываду Беларусі з крызісу і абароны яе сувэрэнітэту. Але законатворчая праца Апазіцыі ў Вярхоўным Савеце аказалася змарнаванай тымі, хто ня здольны да стваральнае дзейнасьці».

Далей гаворыцца, што «палітычны ратунак Беларусі—у поўнай незалежнасьці і ў сыстэме двухбаковых пагадненьняў з былымі партнэрамі па СССР. Незалежная Беларусь павінна падпісваць дагаворы, выгодныя ёй, а ня тыя, якіх дамагаецца Масква».

Савет Міністраў Беларусі — гэта «намэнклятурная структура, якую без перабольшаньня можна назваць ЦК КПБ у новым абліччы: тыя ж людзі, тое ж мысьленьне ды інтарэсы. Урад сабатуе нават тыя нешматлікія і куртатыя прагрэсіўныя законы, якія ўсё ж прыняў Вярхоўны Савет».

У звароце грагучалі абвінавачванні ў адрас С. Шушкевіча і В. Кебіча. Першы, на думку аўтараў, не клапоціцца пра абарону суверэнітэту і спажывецкага рынку рэспублікі, апраўдвае ўступленне Беларусі ў эканамічны і палітычны саюз. Другі—не дапускае эканамічных рэформ.

«БНФ — адзначаецца ў звароце сойма, — патрабуе неадкладнай адстаўкі Савета Міністраў. Вярхоўны Савет жа павінен прыняць новы закон аб выбарах і заявіць аб самароспуску.

З 1 студзеня 1992 года ўступае ў сілу Закон аб рэфэрэндуме. Калі да канца года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі ня прыме заканадаўчых актаў, якія забясьпечаць незалежнасьць Беларусі, яе эканамічную й палітычную абарону, эканамічныя рэформы, калі Вярхоўны Савет не адправіць у адстаўку намэнклятурны й антынародны ўрад Кебіча—Беларускі Народны Фронт распачынае падрыхтоўку да рэфэрэндуму. На рэфэрэндуме мэтазгодна паставіць пытаньні аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету, аб адстаўцы ўраду, аб нацыяналізацыі маёмасьці КПСС—КПБ.

Закон дазваляе выносіць на рэфэрэндум законапраекты. Паколькі няма спадзяваньня на тое, што цяперашні Вярхоўны Савет, адыходзячы, прыме дэмакратычны выбарчы закон, можа ўзьнікнуць неабходнасьць прыняць усенародна, праз рэфэрэндум, закон аб выбарах на шматпартыйнай аснове, распрацаваны Апазыцыяй БНФ».

(Вытрымкі са звароту друкуюцца з захаваннем арфаграфіі арыгінала).

БАРТЭР ПА-ГОМЕЛЬСКУ



Усё пачалося з таго, што адной з югаслаўскіх фірм запатрабаваліся суперфасфатныя ўгнаенні. У абмен яна гатова была паставіць высокапрадукцыйны комплекс па вытворчасці свініны.

Неабходнай колькасці ўгнаенняў (каля 10 000 тон) калгас імя Урыцкага Гомельскага раёна, вядома ж, не меў. А таму старшыня праўлення гаспадаркі Адольф Паташкін звярнуўся за дапамогай да свайго суседа — дырэктара Гомельскага хімічнага завода. Аказалася, не дарэмна ён разлічваў на ўзаемаразуменне. Неўзабаве ў калгасе імя Урыцкага ўжо манціравалі пастаўлены з Югаславіі свінагадоўчы комплекс, разлічаны на 10 000 адкормачнага пагалоўя. Днямі пачалося запаўненне новага комплексу жывёламі. У другой палове будучага года будуць атрыманы першыя сотні тон свініны. Каля палавіны яе застанецца ў калгасе, пойдзе ў каўбасна-кансервавы цэх на перапрацоўку. Астатняе трапіць на прылаўкі гомельскіх магазінаў і, перш за ўсё, у магазін партнёра — хімічнага завода.

Праектная магутнасць комплексу — тысяча тон мяса ў год. Нядрэнную падмогу атрымаў абласны цэнтр у выніку такога бартэра.

НА ЗДЫМКУ: на свінагадоўчым комплексе калгаса.




193

Ён толькі хацеў, каб канец прышоў-бы хутчэй, каб скончыліся мукі чаканьня. Але сьмерць не йшла. Яна, як жорсткі кот, цягнула дні, з гадзіны на гадзіну адкладываючы свой прыход.

І вось аднаго разу нехта пастукаў у дзьверы. Бурачэўскі ляжаў у пасьцелі распалены, цяжка й прарывіста дыхаючы, ужо мала пазнаючы людзей. Сядзеўшая каля пасьцелі сястра ўскочыла і адчыніла дзьверы. Увайшоў Тугоўскі з букетам пахучых кветак, ззаду за ім стаяў малады, чырвоны, у белым халаце доктар. Сястра ўпусціла прыйшоўшых, узяла кветкі, паставіла ў ваду. Паставіўшы, выйшла з доктарам з пакою. Прынесеныя кветкі былі вельмі патрэбны, бо ў пакоі нясло непрыемным пахам ад хворага. Бурачэўскі глядзеў на Тугоўскага і ня мог пазнаць.

— Ну што, "айцец" Кірыла, не пазнаеш Тугоўскага? — засьмяяўся той.

— Тугоўскі, дружа, гэта ты? — ледзь чутна прамовіў Бурачэўскі і, робячы над сабой высілкі, пры дапамозе Тугоўскага сеў на пасьцелі.

— Так, брат, прыйшоў праведаць цябе і бачу, што ты вельмі непрыгожую рэч задумаў — хварэць. Як гэта сталася, "айцец" Кірыла?

Бурачэўскі крыва ўсьміхнуўся.

— Бачыш, — ледзь чутна прахрыпеў ён, прарываючы свае словы кароткім, сухім кашлем. — Можна сказаць, мая сьмерць вельмі прыгожая: памёр, так бы мовіць, пры выкананьні сваіх абавязкаў. Падымаючыся па драбіне на экзамен. Ці ж не праўда, што да апошняга, як жаўнер, стаяў на сваёй службовай варце, а?

— Праўда, "айцец" Кірыла, вельмі прыгожая з твайго боку такая, ну, як бы мовіць, цярплівасьць... Але лепш было-б, каб ты раней падумаў

194

пра сваё здароўе. Памятаеш, ужо даўно астральны чалавек прадугадаў, што ты памрэш ад сухотаў, што ты радзіўся пад Сатурнам.

— Правядлова, брат, радзіўся пад праклятым Сатурнам. Усё жыцьцё аддаў беларускаму руху, а чаго я дасяг... Паміраю, не дайшоўшы да зямлі абяцанай, паміраю дзесьці ў пустыні, адзін, пакінуты дзікім птушкам і зьвярам, як падаль... Эх, мілы сябра Тугоўскі... — Ён спыніўся на хвіліну, каб перавесьці дух пасьля доўгай прамовы. — Я памру, — прамовіў ён.

— Ну, — пастараўся яго супакоіць Тугоўскі, — наведаюся яшчэ да табе.

— Не, памру. Хутка памру. Дык вось ты, паэт Тугоўскі, ты зразумееш, што, як Тарас Шаўчэнка хацеў-бы напісаць свой "Заповіт" перад сьмерцяй, і я, як ён, хацеў-бы, каб мяне пахавалі на высокім берагу Нёмана, каб заўсёды быў-бы відны камень, каля якога бурліць яго сярдзітае цячэньне, каб у часы сваіх разьліваў ён амываў- бы мае косьці, як амываў цела дзіцёнка, калі я купаўся ў ім у залацістыя сонечныя дні маей вясны. І яшчэ хацеў-бы я, каб на гэтым камені былі высечаны словы аб памёршай ластаўцы, не дачакаўшайся вясны на беларускіх палёх... — Ён забіўся ў сухім кашлі.

— Ну, — супакоіваў яго Тугоўскі, — чаму такія думкі, "айцец" Кірыла? Яшчэ паправісься і прыедзеш на Бацькаўшчыну інжынерам.

— Эх, — праенчыў ён, крыху супакоіўшыся ад кашлю, — усё скончана... Ня будзем больш гутарыць аб сьмерці. Ну скажы, як ты жывеш, як улаштаваўся.

— Я? — усьмяхнуўся Тугоўскі. — Як бачыш, яшчэ балтаюся ў Празе, хоць зьбіраўся ехаць на Бацькаўшчыну ў якую-небудзь палескую глуш,

195

далей ад праклятай культуры... Хоць да эскімосаў якіх-небудзь на Паўночны полюс, толькі-б далей ад гэтых праклятых махляроў, ад гэтых подлых масак, называючых сябе людзьмі. А цяпер вось жыву таксама сярод іх — стаў чорнаработнікам — нашу цэглы й мяшаю ванны на будынкі і ня думаю больш аб унівэрсытэце, аб нашых беларускіх кар'ерыстах і палітыцы.

— Ну, і ты шчасьлівы?

— Вось у тым і бяда, — уздыхнуў Тугоўскі, — што шчасьця няма ў маей душы. Будую чужыя вілы, чужыя палацы, чужое шчасьце, а свайго ўласнага не знайшоў...

У гэты момант Бурачэўскі раптам схапіўся за грудзі й заваліўся на пасьцель.

— Ох, мне дрэнна, — ледзь чутна прахрыпеў ён, — звані хутчэй доктару.

Тугоўскі перапужана ўскочыў і без пярэрвы пачаў націскаць кнопку званка. Прыляцеў, запыхаўшыся, доктар.

— У чым справа? — запытаў ён. І ў гэты самы момант, узглянуўшы на хворага, прамовіў: — Выхадзіце хутчэй! Чакайце мяне ўнізу, у чакальні.

Тугоўскі спусьціўся і застаўся чакаць у паркетнай, з мяккай мэбельлю і прыгожымі малюнкамі ў вялікіх бронзавых рамках, зале. Хвіліны былі непрыемныя й даўгія, як туга. Нарэшце ўвайшоў доктар. Тугоўскаму кінулася ў вочы, што ён быў больш бледны й сур'ёзны, чым звычайна.

— Вось што, у яго ёсьць якія-небудзь крэўныя ў Празе? — спытаў ён ня гледзячы на Тугоўскага.

— Не, няма. Ёсьць толькі сябры, бо ён састаяў сябрам "Беларускай Грамады" ў Празе, — стрывожана, чуючы нешта нядобрае, адказаў Тугоўскі.

— Тады скажыце ім, што ўсё скончана... Ска-

196

жыце ім: няхай яны пад'едуць сяньня ўначы ў лес, спыняцца каля санаторыі... з труной...

— З труной? — крыкнуў Тугоўскі.

— Так, з труной. А ўсе гэтыя прадасцярожнасьці мне патрэбны дзеля таго, каб хворыя не даведаліся, што нехта памёр у санаторыі... Сьмерць пакідае на хворых вельмі непрыемнае ўражаньне. Разумееце?

Тугоўскі вылецеў з санаторыі, як непрытомны, й як мага хутчэй, наняўшы аўто, панёсься ў Прагу. Праз некалькі гадзін шмат сяброў Бурачэўскага было паднята на ногі і рыхтавалася адправіцца ў санаторыю. Санаторыя ўжо спала, калі велізарн аўтамабіль хаўтурнага бюро затрашчаў сваім м торам у сасновым лесе. Запаліліся факелы. Некалькі работнікаў у цяжкіх ботах, падбітых зялезам, падкрадаліся, як злодзеі, да дзьвярэй санаторыі і, як злодзеі, падымаліся па скрыпучай драбіне, стараючыся ня стукаць. Каля кожных дзьвярэй стараліся не выпусьціць ні аднаго хворага на той выпадак, калі-б ён, мучымы цікавас цей, высунуў-бы галаву даведацца, што гэта шум у санаторыі, што здарылася. Трывогі доктара былі дарэмныя. Санаторыя спала салодкім моцным сном — нават і не падазраваючы, што тут творыцца апошні акт жыцьцёвай трагэдыі. Таксама асьцярожна, хоць ня раз стукнуўшы зялезам ботаў аб драбіну, работнікі вынесьлі труну й пры сьвеце факелаў паклалі ў аўтамабіль. Усё было скончана. Ніхто ня плакаў, не сьпяваў песьні — толькі вагні велізарных факелаў, як хаўтурныя сьвечы, трашчалі ў начной цемры і асьвятлялі ўвесь малюнак трайным чырвоным сьветам.

— Ня біў барабан перад сумным палком, як сябру свайго мы хавалі, — прамовіў Тугоўскі, але

197

не атрымаў водгуку. Усе маўчалі. Нарэшце, разьвіталіся з персаналам санаторыі і рушылі ў дарогу. Лес быццам жахліва задрыжэў ад затрашчаўшага матору, быццам мацней і сумней качнуліся сосны й зашумелі сваімі галасамі.

Калі ўсё стала спакойна, ужо ўсё было скончана. Ад Кірылы Бурачэўскага не засталося ні сьледу.

## II

На другі дзень рана Тугоўскі йшоў на працу. Сьмерць Бурачэўскага была такой раптоўнай і неспадзеўнай, што ён ня меў магчымасьці наперад паведаміць сваю адміністрацыю і ня мог пакінуць працы.

Ён плыў за велізарнай работніцкай арміяй на трамваю, ішоў у сваім замазаным вапнай і глінай касьцюме, ішоў, паслушны нейкай гонячай сіле. Вочы яго ў гэты дзень глядзелі ў другі бок, рукі адмаўляліся працаваць. Ён думаў аб сьмерці самага лепшага і вернага сябра й мучыўся, што ня мог ісьці за катафалкам на могілкі. Яму рабілася сумна. Ён моўчкі глядзеў на вясёлыя, загарэлыя твары маладых работнікаў і моўчкі прыслухіваўся да іх жартаў. І ня мог супакоіцца. Ён пачынаў думаць аб сваім жыцьці, аб жыцьці застаўшыхся. Кірыла Бурачэўскі памёр, ён адправіўся на вечны супачынак, але ці ня быў гэта самы найлепшы выхад з таго жыцьця, каторае прыводзе людзей у тупік. Ён чуў, што ён прыйшоў у тупік, жахлівы безнадзейны тупік; й так цяжка яму было адчуваць, што ён гіне, што ў яго няма будучыні, што больш у яго не засталося мэты, ува ймя чаго жыць й змагацца. Сяньня, якраз разам з Бурачэўскім, ён

198

мог справіць юбілей: прайшло ўжо 6 месяцаў з таго часу, як ён дабравольна адмовіўся ад стыпэндыі і стаў чэскім работнікам. Ён стаў работнікам таму, што, па-першае, проста матэрыяльнае становішча яго прымусіла. У яго кішэні пасьля памятнай начы ў рэстаране з "начным матылём" сіратліва боўталіся 2 даляры, а на гэтую суму можна было пражыць не болей як тры дні Падругое, ён стаў работнікам і па развaжаньням: жадаючы, ён сам зазначаў апрасьціцца. Ён хацеў унутрышна перарадзіцца, стаць лепшым праз уласныя й пэражытыя зьдзекі. Ён хацеў пражыць па формуле: "Пакутай усё ачышчаецца". Усе гэтыя паўгода ён толькі пакутаваў. Ён цярпеў зьдзекі ад майстры й чэхаў-работнікаў. У яго былі акрываўленыя рукі ад шурпатых цэглаў, якія ён браў голай рукой. У яго балела пасьля працы ўсё цела, быццам пабітае неміласэрна палкамі, як у арыштанта на катарзе. Бывалі дні, калі ён ня мог устаць і йшоў на працу зусім разьбіты. Праўда, пазьней — усё гэта зьнікла. Ён прызвычаіўся да працы, да пераноскі цэглаў, сам пашыў сабе скураныя рукавіцы, прымірыўся з сябрамі-чэхамі й завёў добрыя знаёмствы, але ўсё ж яго жыцьцё заставалася такой самай пакутай, дабравольна пакладзенай на сябе, як і раней. І вось, што ж "ачысьцілася" яго пакутай? Стаў ён лепшым, ці пачуў ён сябе перарадзіўшымся, новым чалавекам, пачуў ён у сабе новыя сілы да змаганьня ці не? Ён мог толькі адказаць: "Не!" Пакута ачысьціла ў ім яго

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 46.**

199

дробныя інтарэсы, дробнае адношаньне да людзей — яна падняла ў яго вачох значэньне й вагу чалавека, але пакута забіла ў ім самім чалавечую гордасьць, прытупіла яго адчуваньне болі й зьдзеку, зрабіла з яго пакорнага чалавека... Болей таго, праз сваю абразу, праз выпітае да дна гора ён пазнаў чалавека ў іншым сьвеце, чым раней, і пабачыў, што людзі паважаюць толькі сілу й паложаньне чалавека. Яны зьдзекуюцца з тых, хто па волі лёсу апынуўся ніжэй, апутаны сеткай няшчасьця. "Тады, — ён пытаецца, — для чаго яго пакута? Нашто дабравольна мучыцца, калі гэта нікому не прыносе карысьці? Кінуць, нарэшце, пакутаваць. Супачыць так, як супачыў Кірыла Бурачэўскі. Другога выхаду няма".

Ён ішоў на працу і думаў аб тупіку жыцьця. Як на злосьць яму ўсюды пападаліся кантрасты.

Ён прыйшоў на працу, на сваю цагельню, і пачаў вазіць тачкі з глінай, абліваючыся потам. Частка ваганетак няслася з грохатам ў паветры па нацягнутым зялезным канаце. Ваганеткі пранасіліся над вялікім садам інжынера цагельні. Работнікі абліваліся потам. У гэты самы час у садзе сядзела сям'я інжынера й прыймала сонечныя ванны. Болей за ўсіх звяртала на сябе ўвагу жонка інжынера, вельмі поўная дама, ляжаўшая сярод яблыняў у гамаку ў адным купальным касьцюме. Яна не зьвяртала ніякай увагі на работнікаў, быццам гэта былі дзікуны, нічога не разумеўшыя й нічога ня вартыя. Тугоўскаму было брыдка глядзець на гэтае поўнае, мяккае цела, быццам нейкі ўвалень падстаўляў сябе пад сонца, й яшчэ больш брыдка, калі гэтая напалову голая пані надзявала на нос ларнэт, каб прачытаць кнігу. Навокал яе ляжалі ў крэслах яе дзеці — прыгожыя дзяўчаты

200

з доўгімі косамі й сын-студэнт у белым касьцюме. Тугоўскі ня мог вытрымаць гэтага малюнку, прыгожага сваімі вясёлымі сонечнымі фарбамі, сваім задаваленьнем жыцьця. Ён з напружаньнем цягнуў тачку з глінай, ледзь піхаючы яе на гару, ён валіўся пад непасільнай працай у той час, як хтосьці сьмяяўся, хтосьці паўнеў, жывучы з яго працы й поту. Хіба гэта не рабства? Калі раней людзі павінны былі працаваць на пана па прымусу, "на прыгоне", дык цяпер яны працуюць дабравольна, але ўсё роўна грошы пана робяць іх рабамі! Запраўды, правядлова: рабства на сьвеце не мяняецца, мяняюцца толькі яго формы.

Тугоўскі быў й застаўся рабом. Ён нічым ня лепшы за тых, якія былі прыкаваны зялезам да тачак й пад палячым сонцам вазілі іх на гару. Не, ён ня мог вытрымаць працы ў гэты сумны дзень. Усё яго калола: і сонца, й сьмех сям'і інжынера побач з сьмерцяй яго сябра, побач з яго потам, працай, нават спакой сваіх сяброў-работнікаў.

У палудзень ён пайшоў да інжынера прасіць на паўдня водпуску пахаваць свайго сябра. Ён падышоў да прыгожай вілы інжынера, агорнутай яблынямі, падняўся на прыгожы ганак і пазваў. Адчыніла тая самая прыгожая дама, што прынімала сонечныя ванны, але цяпер ужо ў чырвоным лёгкім халаце. Яна зьмерыла Тугоўскага з ног да галавы й сярдзіта запытала:

— Co se prejete?[1]

---

[1]Якія ў вас пажаданні?

## АДБЫЛАСЯ IV КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА МЯЖОЙ

# НЕ НА ПАДСТАВЕ СЛОЎ, А НА ПАДСТАВЕ ЎЧЫНКАЎ

У канцы кастрычніка адбылася IV канферэнцыя таварыства «Радзіма». Па ранейшаму статуту тэрмін паміж канферэнцыямі роўны 5 гадам, але паміж III і IV прайшло толькі чатыры. Вельмі ўжо хутка мяняецца сітуацыя, абставіны, умовы працы, растуць патрэбы тых, дзеля каго таварыства існуе. Прыспешваў час абмеркаваць надзённыя праблемы, што стаяць перад гэтай грамадскай арганізацыяй, пераглядзець і ўнесці змяненні ў існуючы статут таварыства «Радзіма», якія адлюстроўвалі б гэтыя самыя змены. На канферэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі грамадскасці, дзеячы мастацтва і культуры, урачы, настаўнікі, навукоўцы, усе тыя, хто супрацоўнічае з таварыствам «Радзіма», дапамагаючы ў яго высакароднай працы, ці ў нейкай меры карыстаецца плёнам гэтай працы. У якасці гасцей былі запрошаны на канферэнцыю беларусы з Беласточчыны на чале са старшынёй Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Рэспубліцы Польшча Аляксандрам Баршчэўскім.



Са справаздачным дакладам выступае Міхаіл САВІЦКІ.

Са справаздачай аб рабоце таварыства выступіў мастак Міхаіл Савіцкі, які на працягу многіх гадоў пасля смерці першага старшыні Рыгора Шырмы ўзначальваў арганізацыю.

За гады свайго існавання таварыства «Радзіма» зрабіла шмат карыснага для беларусаў, раскіданых жыццём па ўсім белым свеце. Гэта была першая грамадская арганізацыя, якая ўспомніла пра сваіх сыноў і дачок, адарваных ад Радзімы. Яна навязвала кантакты з прагрэсіўнымі эмігранцкімі арганізацыямі, асобнымі землякамі, запрашаючы ў госці на Бацькаўшчыну, праз свой орган — газету «Голас Радзімы» расказвала аб іх родных мясцінах, пакінутых сваяках, жыцці на Беларусі. Так, раней таварыства падтрымлівала сувязі з так званымі прагрэсіўнымі арганізацыямі, робячы выгляд, што іншых і не існуе. І многія сёння ставяць гэта «Радзіме» ў віну. Аднак нешта ж не было чуваць яшчэ гадоў пяць-шэсць назад пра арганізацыі накшталт таварыства «Радзіма», якія б падтрымлівалі хаця б культурныя сувязі з адзінакроўнымі братамі за мяжой. І газеты накшталт «Голасу Радзімы», куды многія навукоўцы і пісьменнікі неслі свае смелыя артыкулы, раней не было. Яна асвятляла мінулае Беларусі, узнаўляла старонкі гісторыі, якія абуджалі нацыянальныя пачуцці беларусаў, выхоўваючы любоў да роднай старонкі, абнадзейваючы іх, што яны не самотныя на гэтым свеце. Цяпер газета, як і ўсе іншыя выданні, атрымала новыя магчымасці, і гэтыя магчымасці, па словах замежных чытачоў выкарыстоўвае нядрэнна. На сваіх ст… …ах яна прадастаўляе магчымасць … …азацца палітыкам, грамадскім дзеячам розных поглядаў, розных палітычных накірункаў, па-ранейшаму друкуе многа матэрыялаў з беларускай гісторыі, падае цікавую інфармацыю.

На сённяшні дзень таварыства «Радзіма» падтрымлівае сувязі з арганізацыямі, зямляцтвамі і групамі суайчыннікаў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Аргенціне, Уругваі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Галандыі, Францыі, Іспаніі, Фінляндыі, з арганізацыямі ў краінах Азіі і Афрыкі. Усяго іх каля 60. Можна сказаць, што работа таварыства доўгія гады праводзілася па склаўшыхся стэрэатыпах, і толькі змены, прынесеныя перабудовай, адзначыў дакладчык М. Савіцкі, далі магчымасць эдысці ад старых ідэалагічных канонаў і павярнуцца тварам да ўсіх слаёў нашых зарубежных суайчыннікаў, устанавіць з імі кантакты. Змены пачаліся ўжо з 1986 года, калі наладжваліся сувязі з зусім новымі па сваіх накірунках арганізацыямі, такімі, напрыклад, як «Полацак» у Злучаных Штатах Амерыкі. Наогул можна назваць вялікім здабыткам сённяшняй дэмакратыі той факт, што ў свядомасці людзей запанаваў новы аб'ектыўны погляд на праблему эміграцыі, заснаваны на агульначалавечых гуманістычных каштоўнасцях, сама маральная атмасфера нашага часу прадыктавала неабходнасць устанаўлення і развіцця адносін згоды, даверу і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з рознымі катэгорыямі зарубежных суайчыннікаў. Менавіта гэтымі прынцыпамі кіруецца ў сваёй практычнай рабоце таварыства «Радзіма», даўно перастаўшы падзяляць беларусаў за мяжой на прагрэсіўных і непрагрэсіўных. Каштоўнасць для Бацькаўшчыны ўяўляе кожны беларус, які цягнецца душой да Радзімы, адстойвае яе інтарэсы, шануе яе мову, культуру, гісторыю, гатовы ўнесці свой уклад у справу нацыянальнага адраджэння, дзеля якога мы зараз працуем.



Зінаіда ПАЎЛОВІЧ.

У 1989 годзе па запрашэнню таварыства «Радзіма» на Беларусь са Злучаных Штатаў прыязджаў ансамбль «Васілёк», які складаецца з дзяцей і ўнукаў землякоў-эмігрантаў. Як і гастролі Данчыка, выступленні «Васілька» ўскалыхнулі ў тутэйшых беларусаў пачуццё нацыянальнай самасвядомасці, гордасці за нацыянальнае мастацтва, якое жыве і за мяжой. Такое ж значэнне мелі і выступленні ансамбля «Калінка» з Галандыі, які таксама прыязджаў па запрашэнню таварыства «Радзіма», выступаў у Мінску, перад хворымі дзецьмі ў Аксакаўшчыне і Ждановічах. У рэпертуары ансамбля рускія, украінскія песні і танцы, адно аддзяленне канцэрта складаюць беларускія творы.

У апошнія гады таварыства пачало плённае супрацоўніцтва з беларусамі, якія жывуць у Польшчы. Можна было б працягваць цытаваць справаздачны даклад, але больш цікавым здаецца мне выступленне на канферэнцыі па гэтым пытанні А. Баршчэўскага.



Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ.

З горыччу канстатаваў госць, што на працягу многіх гадоў да беларусаў, якія жывуць на Беласточчыне, Беларусь ставілася не як маці, а толькі як мачаха. Не ведаю, казаў ён, адкуль узялося перакананне, што ўсе беларусы з Польшчы ў час рэпатрыяцыі прыехалі ў Беларусь. Не то дзіўна, што, па сутнасці, ні адна беларуская арганізацыя не цікавілася намі, можа ў нейкай ступені толькі таварыства дружбы, але не мелі гэтыя кантакты характару нейкай канкрэтнай дапамогі. На шчасце, гэта ўсё адносіцца толькі да гісторыі. У апошнія 5—6 гадоў намі моцна зацікавілася арганізацыя «Радзіма». Дапамога яе заключаецца ў многіх фактах. Запрашаюцца нашы дзеці ў піянерскія лагеры на адпачынак. Вельмі дзякуем за тое, што кожны год на курорт прыязджаюць нашы пенсіянеры. Удзячны, што на штогадовыя курсы запрашаюцца інструктары танцаў і вакалісты. Мы не маем спецыялістаў у гэтых галінах. Аднак найбольшая і найцікавейшая дапамога праявілася ў тым, што «Радзіма» пачала прымаць удзел у пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, які сам па саб… …ва унікальная. Дзякуючы Васілёнку і …ім таварышам, якія апякуюцца намі, мы атрымліваем вялікую грашовую дапамогу, будаўнічымі матэрыяламі і абсталяваннем.



Уладзімір РАМАНАЎ

Хачу сказаць, што выступае для нас і з'ява вельмі дзіўная. Крыецца яна ў тым, што паяўляюцца ў нас у Беластоку, Гайнаўцы беларусы, якія належаць да розных палітычных арыентацый, і гэтыя беларусы, як могуць, стараюцца апаганіць «Радзіму». Гэтыя «энкавэдысты», гэтыя «кагэбісты», гавораць яны. Я ім паслядоўна адказваю і тым самым збіваю з панталыку. Я гавару так: калі б знайшліся два шпіёны — адзін амерыканскі, а другі — савецкі, і каб гэтыя шпіёны далі на пабудову музея адзін 100 тысяч долараў, а другі мільён рублёў і пры гэтым не паставілі б ніякіх варункаў, ніякіх умоў, то мы ім шчыра падзякавалі б за гэту дапамогу. Мы самі хочам мець свабоду ў вызнанні сваіх палітычных поглядаў і прызнаем права на такую свабоду ўсіх іншых. Ёсць вартасці пазапалітычныя і пазаарганізацыйныя. Абапіраемся ў сваіх адносінах да іншых людзей не на падставе слоў, а на падставе ўчынкаў. Учынкі ж «Радзімы» ў адносінах да нас вельмі станоўчыя, пазітыўныя, і мы прагнем, каб такія адносіны прадаўжаліся.

«Не на падставе слоў, а на падставе ўчынкаў», гэты тэзіс як нельга лепш тычыцца дзейнасці таварыства, якая ўзнікла ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. У ліпені 1989 года таварыствам сумесна з іншымі грамадскімі арганізацыямі і Беларускай праваслаўнай царквой быў прыняты Зварот «Да суайчыннікаў ва ўсіх краінах свету», у якім выказвалася просьба аказаць дапамогу насельніцтву раёнаў рэспублікі, якія пацярпелі ад катастрофы. І ўжо ў кастрычніку таго ж года ў адрас Таварыства паступіла першая партыя гуманітарнай дапамогі, якую даставіў наш зямляк Міхаіл Мельнік з ФРГ. Медыкаменты і аднаразовыя шпрыцы былі перададзены ў Магілёўскую і Гомельскую вобласці. З суайчыннікамі, якія даставілі груз, была дасягнута дамоўленасць аб працягу дабрачыннага пачынання. І трэба сказаць, што гэтая дапамога з ФРГ працягвала рэгулярна паступаць і ў 1990, і ў гэтым, 1991 годзе. У прыватнасці, у маі і верасні бягучага года па ініцыятыве М. Мельніка ў ФРГ было сабрана і дастаўлена ў наш адрас каля 40 тон медыкаментаў, вітамінаў, медыцынскага абсталявання на суму больш 5 мільёнаў марак ФРГ.

Суайчыннікі з Галандыі на сабраныя грошы набылі і даставілі нам апарат «штучная нырка» коштам 80 тысяч долараў ЗША. Ён перададзены ў рэанімацыйнае аддзяленне Мінскай абласной бальніцы ў Бараўлянах.

Вялікія партыі такой жа дапамогі паступілі ад суайчыннікаў з ЗША, Канады, Бельгіі, Алжыра, Ганы і іншых краін на суму каля 500 тысяч долараў ЗША. Члены Федэрацыі рускіх канадцаў (ФРК), у якой значыцца многа выхадцаў з Беларусі, пажадалі аказаць канкрэтную дапамогу адной з лячэбных установаў рэспублікі. Яны пабывалі ў Аксакаўшчыне, куды ўжо паступілі медпрэпараты і камп'ютэр.

Аб неацэннай дапамозе, якую аказвае сёння таварыства «Радзіма» бальніцам, санаторыям, іншым лячэбным установам рэспублікі, гаварылі на канферэнцыі З. Паўловіч, намеснік старшыні Таварыства Чырвонага Крыжа, У. Піліпенка, загадчык лячэбна-прафілактычнай дапамогі Беларускага рэспубліканскага савета па кіраванню курортамі. Ён, у прыватнасці, сказаў, што з дапамогай таварыства «Радзіма» амаль на 100 працэнтаў забяспечаны лекамі і вітамінамі ўстановы, што па іх профілю займаюцца аздараўленнем дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай бяды.

Як і гаварылася раней, на канферэнцыі былі ўнесены змены ў статут таварыства. Адна з іх тычыцца назвы арганізацыі. Знікла з яе слова па «культурных» сувязях, таму што кантакты сталі шырэйшымі і больш разнастайнымі. Таварыства цяпер будзе называцца Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (таварыства «Радзіма»).

Яго старшынёй на канферэнцыі абраны вядомы беларускі кампазітар, дырэктар тэатра оперы і балета Сяргей Картэс.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# РАНЧА «МОЙ РОДНЫ КУТ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Нарадзілася ў Мінску ў 1909 годзе і шмат чаго ведае пра падзеі 20-х, 30-х і 40-х гадоў на Беларусі. З яе дазволу ўключаю дыктафон.**

— Жылі мы там, дзе цяпер парк Янкі Купалы. Менск я страшэнна любіла і ніколі не думала, што змагу пакінуць яго назаўсёды. Такі ўлюбёны горад... І такія цяжкія ўспаміны... Немцы адышлі ў 1917 годзе, прыйшлі бальшавікі. Ідзеш, бывала, каля Залатой Горкі і бачыш расстраляных людзей. Штоноч тады забіралі ў «чрезвычайку». Без судоў і следства распраўляліся са сваімі ахвярамі новыя ўлады. Вазілі яшчэ на расстрэлы ў Камароўскі лес, гэта на тое месца, дзе цяпер клінічны гарадок, Акадэмія навук, політэхнічны інстытут. А ў тым часе жыла яшчэ сястра Івана Луцкевіча, яна была замужам за адвакатам Ельцам, якога таксама забралі і расстралялі. Я, хаця і малая яшчэ была, але памятаю, як усе баяліся, што прыедуць і забяруць. У 1919 ці нават 1918 пачалася польская акупацыя. Людзі палякаў сустракалі з радасцю—гэта ж такі кашмар скончыўся. Усе ўздыхнулі. Палякі так не лютавалі, як бальшавікі.

А пасля зноў бальшавікі прыйшлі ў 1921 годзе. Нядоўгі час жылі мы нармальна. Кожны вучыўся, дзе хацеў. Школы былі расейскія, жыдоўскія, польскія, беларускія. Але паступова ўсё гэта зліквідавалася. Пачало зноў адбывацца нешта страшнае. У 30-х гадах прыйшлі з Вільні беларускія пісьменнікі, іншыя дзеячы культуры і мастацтва, якія свядома вярталіся ў Савецкую Беларусь, каб аддаць свае сілы адраджэнню роднага краю. І Антон Луцкевіч тады прыслаў маёй маме, сваёй сястры Эміліі, ліст, у якім прасіў заапекавацца сваімі сябрамі. За сувязь з Луцкевічам яе пасадзілі ў турму. Праўда, праз месяц выпусцілі. А другі раз арыштавалі ў 1936 годзе разам з сястрой, якая толькі-толькі скончыла медычны інстытут і павінна была ехаць на практыку. Рабілі вобыск да 5-й гадзіны раніцы. Прад'явілі сястры абвінавачанне па 58 артыкуле за контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду, за тое, што слухалі радыё, расказвалі анекдоты. Увесь яе далейшы лёс быў паламаны. А маме—за неданясенне — 2 гады высылкі. Пазней адвакат казаў, што ва ўсім вінаваты Луцкевічы. З-за іх, маўляў, былі пакараны і сёстры, і пляменнікі, і проста знаёмыя.

Пасля вызвалення маці прыехала ў Менск, але ёй забаранілі жыць у сталіцы, загадалі тэрмінова выехаць. Добра яшчэ, што мая сястра працавала лекарам на Кольскім паўвостраве, яна і забрала маці да сябе.

**Мяне папярэдзілі, што спадарыня Яніна не надта любіць расказваць нешта журналістам. І кожны раз, калі яна робіць доўгую паўзу або голас яе зрываецца, з трывогай пазіраю на яе спакойны твар. І маці Данчыка, ды і сам Данчык, якія вельмі добра, на мой погляд, павінны былі ведаць пра ўсе перыпетыі лёсу іх сям'і, з непрыхаванай цікавасцю слухаюць гэты расказ, перабіваючы яго пытаннямі. І я нават пачынаю разумець, чаму. Для спадарыні Яніны часы сталінскіх рэпрэсій—гэта яе ўласнае жыццё. Яна яшчэ не забылася пра тое, як у гады сваёй маладосці мела адну сукенку і адну пару абутку, а бацька, дацэнт політэхнічнага інстытута, старыя боты, каб не развальваліся пры хадзе, звязваў вяровачкамі... Спадарыня Юля ў ваенныя гады была дзіцёнкам і амаль пра ўсё ведае з расказаў старэйшых, для нас жа з Данчыкам усё гэта ўвогуле гісторыя. І таму нам куды лягчэй быць непрадузятымі, расстаўляць акцэнты, шукаць ісціну. Пазней, цалкам «зняўшы» са стужкі тэкст нашай гутаркі, я звярнула ўвагу на тое, што гэта не я адна інтэрв'юірую спадарыню Яніну, а мы з Данчыкам — удваіх, па чарзе.**

**Спадарыня ЯНІНА:** Цяпер я хачу сказаць, чаму некаторыя людзі не ўцякалі, як прыйшлі немцы ў 41-м годзе. Бо тыя немцы, што былі ў 1917 годзе ў Менску, пакінулі добры ўспамін. Гэта быў культурны народ, які чыста трымаў гор[illegible] у нядзелю заўсёды з'яў[illegible] аркестр вайсковы на плошчы і іграў людзям. Харчы давалі па картках, але кожны меў свой кавалак хлеба, штучны мёд—голаду не было. Калі ў сялян бралі прадукты, пакідалі ім за гэта квіт[illegible] Першае расчараванне п[illegible]шло, калі сталі жыдоў браць. Як гэта сагнаць здаровых людзей і знішчыць... Тое самае рабіў і Сталін, але, праўда, не на вачах ва ўсіх, а далёка, у лагерах.

**ДАНЧЫК:** Якая рэакцыя была на гэта беларусаў?

**Спадарыня ЯНІНА:** Якая ж магла быць рэакцыя, калі ў нас столькі было прыяцеляў-жыдоў! Многія ім спачувалі, а некаторыя і дапамагалі. Мама ж у клініцы працавала з лекарамі.

**Я:** А як вы ўспрымалі асобу Кубэ?

**Спадарыня ЯНІНА:** Я сама бачыла на ўласныя вочы, як людзі стаялі з кубачкамі за ежай, жыдоўскія дзеці падбягалі, ён гладзіў па галоўцы, добры быў з імі.

**Я:** А ці не цынізм гэта?

**ДАНЧЫК:** Так. Гэта ні пра што не гаворыць. Гітлер таксама гладзіў.

**Спадарыня ЮЛЯ:** Засталіся ж дакументы, што Кубэ пратэставаў супраць гэтых забойстваў...

**ДАНЧЫК:** Як жа вы маглі згадзіцца з гэтым?

**Спадарыня ЯНІНА:** А што мы маглі рабіць? Калі б немцы даведаліся, што хаваем жыда, дык расстралялі б. Я, дарэчы, хадзіла ў гета і не баялася.

**ДАНЧЫК:** А чаму ты не баялася?

**Спадарыня ЯНІНА:** Я брала з сабой пашпарт, дзе напісана, што я беларуска. І таму верыла, што мне нешта кепскае не зробяць.

**Спадарыня ЮЛЯ:** Мама брала ад сваіх прыяцеляў рэчы, везла іх на вёску, абменьвала на сала і прыносіла ў гета, бо там паміралі з голаду. Была рызыка і з партызанамі, заўсёды, як ішла на вёску, баялася, каб не забілі...

**Спадарыня ЯНІНА:** Мы ўсе разумелі. Добра разумелі. Але што было рабіць?

**Спадарыня ЮЛЯ:** Я, хаця і замалая была, але памятаю некаторыя дэталі. Было мне 9—12 гадоў. Я нічога не баялася. Хадзіла ў школу і вучылася. Да Саюза беларускай моладзі я не належала, але, як яны ішлі, часта плялася ў хвасце калоны, падпявала беларускія песні. У Менску, калі ты не чапаў немцаў, цябе ніхто не чапаў. Толькі няможна было ад 8 гадзін вечара хадзіць.

**ДАНЧЫК:** Але калі ты ведаеш, які чорт прыйшоў на тваю зямлю, а цябе ён не чапае—усё ў парадку?

**Спадарыня ЮЛЯ:** А што было рабіць? Усе ж не маглі пайсці ў партызаны. Па-другое, гэта ж былі людзі, якія пацярпелі ад камуністаў і нават не хацелі ісці ў партызаны!

**У той вечар мы да глыбокай ночы гутарылі са спадарыняй Янінай і Андрусышынымі.**

**Не заўсёды іх тлумачэнні некаторых фактаў былі пераканаўчымі, часам нават зусім бездапаможнымі і наіўнымі, але заўсёды шчырымі. Нягледзячы на ўсё перажытае, на ўсе несправядлівасці, што выпалі на долю спадарыні Яніны на радзіме, яна не носіць на сэрцы зла. Як, мусіць, не насіла яго і нябожчыца Эмілія, якой, акрамя ўсяго, давялося зведаць і турмы, і лагеры, і здзекі, і знявагу, і здраду. Інакш, мне так думаецца, яны не змаглі б выхаваць свайго Данчыка з пачуццём такой светлай і пяшчотнай любові да Бацькаўшчыны, да ўсяго беларускага. Прынамсі, Данчык, як гаворыць спадарыня Яніна, быў моцна прывязаны да сваёй «прабабці» Мілі. Бо самой Яніне не выпадала шмат часу праводзіць з малым—трэба было працаваць. А праца на фабрыцы на канвееры была знясільваючай, аднастайнай, вымотвала душу.**

**Пазней спадарыня Яніна, хаця і не журналістка, працавала некаторы час на радыёстанцыі «Свабода». Але ўсё гэта, лічыць яна, было даволі даўно. Цяпер з задавальненнем гатуе сняданак свайму любімаму ўнуку Данчулю, клапоціцца пра яго, чакае яго з працы. Па яе ж словах, Данчык—чалавек добры, мае незвычайны характар. Адна, на яе думку, загана — не палітык, неабачлівы. Не прамаўчыць, не стрымаецца, калі бачыць несправядлівасць, выкажа сваю думку. Так і ёсць, магу пацвердзіць, у гэтым я і сама магла пераканацца. Але нашто Данчыку, папытаецеся, які працуе менеджэрам, быць палітыкам?**

**Адказ на гэта пытанне я атрымала ў наступную сустрэчу з Данчыкам, нечаканую, незапланаваную, перад самым ад'ездам з Амерыкі. Замест таго, каб пакаваць валізкі, я вымушана была ўсё кінуць і збірацца ў тэатр, бо Данчык недзе расстараўся адзін білет на оперу «Фантом» у «Majestic Theatre». Білет то купіў, а як дабрацца мне да цэнтра з Лонг Айленда, калі дома ў Алы Орса-Рамана нікога, як ісці на аўтобусны прыпынак—не ведаю, а ў метро, што ў чатыры паверхі, заблытаешся ўмомант... Данчык з офіса на Манхэтэне кіруе па тэлефоне:**

**— Пойдзеш налева, тады па гай вуліцы, а адтуль, як перасякаюцца авеню са стрыт, заходзь у метро. На выхадзе я сустрэну.**

**Дзеля «Фантома» я вырашыла рызыкнуць.**

**Праз паўгадзіны зноў тэлефане:**

**— Як абстаноўка? Дакладай. Ніхто не прыехаў? Не хвалюйся, гэта элементарна даехаць—я ж сустрэну.**

**Хаця Данчык мяне і супакойваў, але сам добра-такі знерваваўся з-за гэтага мерапрыемства. Сябар іх сям'і, Рая Станкевіч, выратавала з машынай. Данчык, узмакрэлы, у белай кашулі, пры гальштуку і ў касцюме, з пачуццём выкананага абавязку завёў у тэатр, усадзіў на месца і загадаў чакаць каля выхаду пасля спектакля. Білет жа адзін!**

**Гэты білецік я захавала. Кожнага разу, бачачы яго, прыгадваю грандыёзнае відовішча «Фантома», неверагодна прыгожую музыку оперы, якая так падабаецца Данчыку.**

**Але ж гэта яшчэ не ўсё. Не будзь, як гаворыцца, мой шэф па культурнай праграме сапраўдным беларусам. Гуляць дык гуляць! З ветрыкам праімчаліся па Манхэтэне, каб трапіць у бар на апошнім паверсе самага вышыннага будынка ў Нью-Йорку.**

**— Вып'ем за сустрэчу, за тое, каб заставаліся мы заўсёды людзьмі,— прапанаваў ён.**

**— І за тое, каб табе добра было на новым месцы, Данчуля,— дапоўніла тост Рая Станкевіч.**

**Вось тут нарэшце ўсё і раскрылася. Аказваецца, днямі малодшы Андрусышын прыняў прапанову і падпісаў кантракт на работу на радыёстанцыі «Свабода». Праз пару месяцаў трэба будзе ехаць у Мюнхен, на сталае месца жыхарства. Ну, а журналісту, лічыцца, абавязкова трэба быць палітыкам. (Данчык, дарэчы, журналіст па адукацыі).**

**Цяпер зразумела, чаму гэтак хвалявалася бабуля Данчыка. Цяпер зразумелы і трохі шалёны стан яго самога, натуры артыстычнай, тонкай. Вядома, перажывае, у нечым сумняваецца.**

**Гуляць дык гуляць! Тым больш з людзьмі, блізкімі табе па духу, па светаўспрыманню. Ну хіба ж разважлівым прагматыкам прыйдзе ў галаву гуляць пешкі па начным Нью-Йорку? Мы пагулялі. А потым сярод ночы паехалі яшчэ на экскурсію да Данчыка ў офіс. Дзяжурны ўнізе, дарэчы, ніколькі не здзівіўся: Амерыка ёсць Амерыка! Даў ключы, і мы неўзабаве апынуліся на тым паверсе, дзе за маленькімі столікамі з перагародкамі размяшчаюцца дзесяткі клеркаў, кожны з якіх выконвае нейкае заданне шэфа.**

**У Данчыка ў гэтай канторы асобны кабінет з камп'ютэрамі і картатэкамі. Таму, хто кіруе кадрамі, усё трэба ведаць пра сваіх супрацоўнікаў, быць дыпламатам і псіхолагам. Мусіць, у Данчыка гэта атрымліваецца, бо яго цэніць кіраўніцтва.**

**Данчык сеў на сваё месца за сталом і стаў паказваць, як ён шукае інфармацыю, піша лісты тым, хто прэтэндуе на работу ў іх фірме, але нечым, скажам, не падыходзіць.**

**За спіной у Данчыка ў вялікім акне гарэў, пераліваўся начны Нью-Йорк. А я, па шчырасці, была вельмі і вельмі задаволеная тым, што гаспадару кабінета нядоўга ўжо засталося тут сядзець, перакладаць паперкі. Гэта месца для чыноўніка, а не для мастака, натуры творчай. У даволі вялікім кабінеце я адчувала: яму было нечым дыхаць і ўжо тым больш—ніяк не ўзляцець.**

**Вось такім было развітанне з Амерыкай. Але не з вамі, чытачы. Праз нумар чытайце ў «Голасе Радзімы» рэпартаж з радыёстанцыі «Свабода».**

**Таццяна АНТОНАВА.**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ГРОДНЕ

З 22 па 25 кастрычніка ў Гродне праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя «Культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі», у якой бралі ўдзел гісторыкі, філосафы, этнолагі, палітыкі з Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі, Польшчы —усяго каля 100 даследчыкаў.

Арганізавалі канферэнцыю Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, кафедра агульнай гісторыі Гродзенскага універсітэта імя Я. Купалы, Гродзенская абласная краязнаўчая асацыяцыя і выканком гарсавета. Трэба адзначыць, што канферэнцыя ў Гродне сабралася не выпадкова: апошнім часам гродзенскія гісторыкі, краязнаўцы актыўна адраджаюць гістарычную спадчыну. Так, намаганнямі краязнаўчай асацыяцыі вернута імя Т. Нарбута, адбылося ўшанаванне памяці Вітаўта Вялікага і інш. На гэты ж раз у Гродна з'ехаліся даследчыкі гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

Для навукоўцаў кожная нагода дзеля сумоўя — падзея. Гродзенская канферэнцыя, апроч таго, вызначалася і арганізацыйна: напярэдадні ў 3-х тамах былі выдадзены тэксты дакладаў і паведамленняў на канферэнцыі. Зборнік пад назвай «Наш радавод» (700 асобнікаў) хутка, відаць, стане бібліяграфічнай рэдкасцю.

Цешыць, што тэматыка гродзенскай канферэнцыі будзе мець працяг. Як паведаміў на адкрыцці канферэнцыі дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс, у 1992 годзе мае адбыцца канферэнцыя ў Вільні — па беларуска-літувіскіх дачыненнях. а ў 1993 годзе спланавана канферэнцыя «Рым-IV» у Пінску.



**Іх можна часта бачыць разам. Абмяркоўваюць новыя работы, спрачаюцца, мараць. Мастакі з раённага цэнтра Іўе Іван Васюкевіч, Мікалай Рабец, Іван Струкаў — спецыялісты розных творчых почыркаў. Але аб'ядноўвае іх агульнае імкненне стварыць у Іўі культурны цэнтр, каб адрадзіць некалі багатыя традыцыі нацыянальнай керамікі, разьбы па дрэву, адкрыць пастаянна дзеючую выставачную залу. Мараць яны і аб рэстаўрацыі старадаўняй забудовы гарадка, каб набыў ён свой непаўторны архітэктурны выгляд. Аднак здзіўляе абыякавасць мясцовых улад да скарыстання таленту мастакоў у інтарэсах горада.**

**На словах у раённым аддзеле культуры падтрымліваюць іх ідэі, але практычнай дапамогі няма. Не маючы творчых майстэрань, мастакі працуюць дома ці у часовых памяшканнях. І толькі энтузіязм і ўзаемная падтрымка не даваляюць апускаць рукі.**

**НА ЗДЫМКУ: мастакі з Іўя І. ВАСЮКЕВІЧ, М. РАБЕЦ і І. СТРУКАЎ.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

